

# НОВЫЯ СОВЕЦКІЯ РЭСПУБЛІКІ

На сёмай сесіі Вярхоўнага Совета СССР, якая адбывалася з першага па восьмае жніўня гэтага года, былі прыняты ў састаў Совецкага Саюза тры прыбалтыйскія совецкія рэспублікі — Літва, Латвія і Эстонія, Бесарабія і Паўночная частка Букавіны.

Працоўныя гэтых рэспублік разам з працоўным народам усёй Расіі змагаліся за ўладу Советаў. Вялікая Кастрычніцкая Социялістычная рэволюцыя перамагла. Совецкая ўлада была таксама ў Літве, Латвіі, Эстоніі і Бесарабіі, але нядоўга яна там існавала. Контррэволюцыйныя банды, пры дапамозе капіталістаў іншых краін і здраднікаў, узялі ўладу ў свае рукі. І пачалася тады крывавая расправа. Лепшыя людзі былі кінуты ў турмы, сасланы на катаргу, забіты.

Пад мудрым кіраўніцтвам комуністычнай партыі і дарагога таварыша Сталіна расла і квітнела наша цудоўная радзіма, а народам прыбалтыйскіх краін і Бесарабіі жылося цяжка. Не клапаціліся аб народзе іх гаспадары. Лепшыя землі, заводы, фабрыкі належалі памешчыкам і капіталістам. А па вуліцах хадзілі тысячы абарваных, галодных беспрацоўных. Калі яны не маглі заплаціць за кватэру— іх выганялі на вуліцу, за няўплату налогу— гаспадарка селяніна прадавалася. Бязрадасна раслі дзеці працоўных. Не ўсе маглі вучыцца. Школы былі для іх недаступнымі, бо за гэта трэба было многа плаціць.

Так 22 года задыхаліся працоўныя Прыбалтыйскіх краін і Бесарабіі пад панскім гнётам, але мары аб совецкай уладзе жылі ў народзе. З надзеяй пазіралі яны на Совецкі Саюз.

У мінулым годзе паміж Совецкім Саюзам і прыбалтыйскімі краінамі быў заключан дагавор аб узаемадапамозе. Гэта значыць, што Совецкі Саюз і прыбалтыйскія краіны не павінны ваяваць паміж сабой, а калі якая-небудзь іншая дзяржава нападзе на адну з іх, то ўсе краіны, заключыўшыя дагавор, павінны былі-б разам абараняцца. Совецкі Саюз акуратна выконваў свае абавязацельствы, а ўрады прыбалтыйскіх краін дагавор не выконвалі. Яны распаўсюджвалі хлусню аб Совецкім Саюзе і хацелі ўцягнуць прыбалтыйскія і іншыя народы ў вайну з намі. Мудрая Сталінская знешняя палітыка не дазволіла ім гэта рабіць. Для забяспечання поўнага выканання дагавора былі ўведзены часці Чырвонай арміі.

Працоўныя радасна сустрэлі чырвоных байцоў і рашылі больш ніколі з імі не разлучацца. Яны абралі новыя ўрады і паслалі сваіх дэпутатаў у Маскву, у Вярхоўны Совет СССР прасіць, каб прынялі іх у дружную сям'ю совецкіх народаў. Вярхоўны Совет СССР задаволіў іх просьбу: Літва, Латвія і Эстонія сталі совецкімі социялістычнымі рэспублікамі, неадрыўнай часткай Вялікага Совецкага Саюза.

Бесарабія таксама заўсёды належала Расіі. Карыстаючыся нашай ваеннай слабасцю ў час грамадзянскай вайны—румынскія капіталісты адабралі яе ад нас, а цяпер калі наша краіна стала магутнейшай у свеце дзяржавай—мы прапанавалі румынскаму ўраду звярнуць нам Бесарабію і Паўночную Букавіну і румынскі ўрад вымушан быў згадзіцца.

З Бесарабіі і былой Малдаўскай АССР утварылася саюзная Малдаўская Совецкая Социялістычная рэспубліка. Вызваленыя раёны Паўночнай Букавіны—належаць цяпер Украінскай ССР.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Жнівень 1940 г № 8

# Канец лета

Пятрусь ГЛЕБКА

*Рыс. А. АСТАПОВІЧА*

Яблыкі паспелі...
У ярах глыбокіх
Дацвітае лета
Цветам журавін.
Адспявалі жнеі
На палях шырокіх,
Заспяваюць скора
Ў небе журавы.
Заўтра нам у школу...
Развітацца трэба
З тымі, з кім гулялі
Летняю парой:
З нашым шумным лесам
З нашым сінім небам,
З нашаю блакітнай
Быстраю ракой.
Мы ідзем на поле...
Тонкім павучыннем
І расой халоднай
Крыецца прастор.
Мы ідзем у пушчу—
Быццам у кручыне
Галаву схіляе
Старадаўні бор.

Мы ідзем да рэчкі...
З намі па дарозе
З поўначы сцюдзёны
Подых вецярка.
І пад ім на воды
Ліст раняюць лозы,
І шуміць маркотна
Нашая рака.
Чуе—скора лёдам
Будзе ўся адзета,
На палях закружаць
Белыя снягі...
Да спаткання-ж, рэчка!
Да другога лета,
Дарагія пушчы,
Нівы і лугі!
Заўтра нам у школу...
За сталы, за парты
Сядзем мы па класах,
Будзем працаваць,
Будзем весяліцца
І вучыцца ўпарта,
Будзем вечарамі
Лета ўспамінаць.






*Якуб КОЛАС*

Рыс. А. АСТАПОВІЧА

Рыгорка—хлопчык здольны, бойкі і вельмі ганарысты, хаця яму ўсяго восем год. Ён не любіць, як іншыя гарэзнікі яго ўзросту, крыўдзіць слабейшых, але затое і сам не даецца ў крыўду.

Калі надышла залацістая восень, Рыгорку адвялі ў школу.

Дзень быў яркі, сонечны і цёплы. Верасьнёўскае паветра пахла ап'яняючай свежасцю. У грудзях адчувалася нейкая лёгкасць і трывожная радасць. Хацелася бегаць, сваволіць, але першы дзень заняткаў заўсёды прымушаў вучняў трымацца, як у гасцях. Усе былі апрануты па-святочнаму: чысценька і прыгожа. Адчувалі сябе шчаслівa і весела. Кожнаму хацелася паказаць свае абноўкі і веды, набытыя за лета. Больш усіх гэта рупіла Рыгорку, які ад радасці не мог уседзець на месцы і пры кожным запытанні настаўніцы падымаў руку. Але настаўніца выклікала іншых вучняў і не звяртала на яго ніякай увагі. Гэта вельмі крыўдзіла хлопчыка. Чорныя яго вочкі гарэлі, як вугалькі, і смуглыя шчокі сарамліва ружавелі.



Невядома, чым-бы скончыўся першы дзень заняткаў для Рыгоркі, калі-б настаўніца не выклікала яго чытаць. Здарылася гэта на апошнім уроку, якраз тады, калі хлопчык страціў усякую надзею вызначыцца. Спачатку ён заікаўся і ледзь чытаў; здавалася, нехапала паветра ў чыстым і светлым пакоі, але хутка трывога ўляглася і ён з захапленнем прачытаў некалькі старонак. Настаўніца з срабрыстымі скронямі, клапатлівая і строгая жанчына, доўга глядзела на Рыгорку сваімі ласкавымі вачыма, а потым прамовіла:

— Сядай, прыдзецца перавесці ў другі клас...

Хлопчык не ведаў, што рабіць, стаяў і чакаў чагосьці, пакуль настаўніца не сказала больш строга:

— Ідзі і сядай на месца.

Гэта канчаткова збянтэжыла хлопчыка. Ён пайшоў і ціхенька сеў за сваю нядаўна пафарбаваную парту, на якой яго прыяцель Яша паспеў ужо напісаць сваё імя.

Толькі на другі дзень хлопчык зразумеў, у чым справа. Яго перавялі ў другі клас. Радасці не было канца. Хацелася яшчэ больш бегаць і сваволіць, але пры-



ходзілася стрымліваццa: цяпер ён у другім класе.

Першыя дні заняткаў ішлі добра. Рыгорка заўсёды прыходзіў у школу падрыхтаваным. Адказваў урокі смела і выразна. Настаўніца другога класа Лідзія Петроўна не магла ім нахваліцца і ставіла Рыгорку ў прыклад іншым вучням. Але хутка выявілася адна цікавая акалічнасць. Хлопчык умеў чытаць і не мог пісаць. Замест прапісных літар выходзілі друкаваныя або нейкія нязграбныя крывулькі.

Лідзія Петроўна, не ведаючы ў чым справа, пасля праверкі пісьмовых прац паказала яго сшытак усяму класу, сказаўшы:

— Хіба так пішуць? Адны выкрунтасы, прачытаць нават нельга.

Хлопчык, пачырванеўшы, як печаны рак, маўчаў. Яму было вельмі сорамна, ён ледзь дасядзеў да канца заняткаў. А на другі дзень зусім не з'явіўся ў школу. Ён рашыў навучыцца пісаць сам. Кожную раніцу хлопчык акуратна сабіраў свае кніжкі і сшыткі і ішоў на цэлы дзень куды-небудзь у патайнае месца. Там, схаваўшыся ад усіх, ён вучыўся пісаць.

Вечарам, калі вучні прыходзілі са школы, Рыгорка таксама вяртаўся дамоў. Цяпер ён не хадзіў да таварышоў, а сядзеў да позняй ночы і ўсё пісаў і пісаў.

Невядома, як доўга цягнулася-б гэтая гісторыя, каб аднаго разу адвячоркам не прышла да іх настаўніца.

Прывітаўшыся, яна запытала:

— Як здароўе хлопчыка?

— Нічога, дзякую, стараецца,—адказала Рыгорава маці, усаджваючы настаўніцу.

У хаце было чыста і акуратна. На вокнах віселі прыгожыя фіранкі, на стале ляжаў чысты, белы абрус. Настаўніца акінула ўсё вокам і засталася здаволенай чыстатой і гасціннасцю гаспадыні, якая была таксама ўдзячна Лідзіі Петроўне за прыхільнасць сыночка да навукі.

Хлопчыка якраз не было дома. Дзве жанчыны доўга гутарылі паміж сабой і толькі на развітанне настаўніца запытала:

— Калі-ж хлопчык прыдзе ў школу?

— Як у школу, а хіба ён не ходзіць?

— Не ходзіць, мне перадалі, што ён захварэў.

— Што вы, мая даражэнькая!..

У гэты момант уляцеў у хату вясёлы і радасны Рыгорка. Дзед Халім пахваліў яго за напісаныя дашчэчкі для маладых прышчэпаў у садзе. Цяпер з яго больш не будуць кпіць. Але ўбачыўшы настаўніцу, ён гатоў быў праваліцца ад сораму праз зямлю. Хацеў кінуцца за дзверы, але маці затрымала. Прышлося ва ўсім прызнацца.





# Як мужыкі пабілі пана

Т. Гарбуноў



На высокім берагу Нёмана стаяў прыгожы палац. У тым палацы жыў вельмі багаты пан. Пан любіў слухаць казкі. Усе яго служкі і парабкі, апрача работы, павінны былі па вечарах расказваць пану казкі.

Пан чуў многа казак. І большасць з іх яму не падабалася. Усе казкі былі падобны адна на другую: у іх гаварылася аб крутых норавах паноў, аб хітрыках чыноўнікаў, аб папах-ілгунах. У казках беднякі заўсёды заставаліся правымі і перамагалі багатых. Гэта пану вельмі не падабалася. Ён жадаў слухаць такія казкі, у якіх-бы гаварылася аб панскай чэснасці і мудрасці.

Аднойчы пан загадаў сваім парабкам разыйсціся па вёсках і клікаць у палац усіх мужыкоў, якія ўмеюць расказваць казкі.

Калі мужыкі сабраліся, пан паклікаў гасцей.

Першы мужык пачаў свой расказ так:

«Быў я ў адной краіне. Іду я па сялу і бачу—едзе пан верхам на мужыку ды яшчэ і бізуном паганяе.

Я пытаюся:

— Скажыце, пан, чаму вы едзеце верхам на мужыку, як на кані?

А пан адказвае:

— Дурань, у цябе няма разумення. На мужыку лепш ехаць, чым на кані. Конь не ведае, што я яго гаспадар, а мужык гэта дасканала ведае».

Гасцям расказ прышоўся па густу.

Другі мужык пачаў свой расказ так:

«Іду я па вуліцы і бачу—двое мужыкоў цягнуць казу на званіцу.

— Навошта вы цягнеце казу на званіцу?—пытаю ў іх.

— Там вырасла трава, няхай каза пакорміцца,—адказваюць яны.—На званіцы казе свабадней будзе, ды і нас пан не аштрафуе за патраву.

— А вы-б лепш траву сарвалі і казу накармілі.

— Разумная галава ў цябе, юнак,—адказалі мужыкі».





Трэці мужык пачаў расказ так:

«Іду я па вуліцы і бачу, як з адной хаты людзі праз акно вылазяць на вуліцу. Думаю, што-небудзь здарылася. Іду туды. Аднак нічога не здарылася. Дзверы выходзяць на агарод, а вокны на вуліцу—толькі і ўсяго. І каб не рабіць лішніх крокаў, усе лазяць праз акно.

— Чаму-б вам не зрабіць наадварот,—раю ім,—дзе акно—там зрабіць дзверы, а дзе дзверы—зрабіць акно.

— А дзе вы раней былі, калі хату пачыналі будаваць?

— Пакуль я ішоў аб гэтым вам сказаць, дык вы хату пабудавалі».

Чацверты мужык расказаў:

«Адзін чыноўнік спяшаўся на службу ў прысутственнае месца. Яму трэба было хутка наладзіць снеданне. Ён узяў яйка і гадзіннік. Яйка—каб варыць, а гадзіннік—каб сачыць за часам. Гадзіннік чыноўнік кінуў у вар, а яйка ўзяў у далонь думаючы, што ён назірае за гадзіннікам.

Гадзіннік сапсаваўся. Яйка не зварылася. Чыноўнік спазніўся на службу. Снеданне прапала. Чыноўнік быў злы. І за ўсё гэта дужа дасталося мужыкам».

Пяты мужык расказаў:

«На экзаменах у сялянскага хлопчыка святар спытаў:

— Скажы, хлопчык, хто знаходзіцца вышэй за ўсіх?

Хлопчык хутка адказаў:

— Вышэй за ўсіх знаходзіцца наш кот.

— А ці-ж бог не вышэй за ўсіх?—усклікнула збянтэжаная настаўніца.

Хлопчык бойка адказаў:

— Бог ніжэй за нашага ката. Бог у нашай хаце вісіць пад столлю, а кот наш спіць на самым чардаку».

Шосты мужык расказаў:

«У аднаго старога генерала быў дзяншчык. Што ні загадае генерал, дзяншчык усё выканае.

Аднойчы генерал паклікаў дзяншчыка і кажа яму:

— Салдат, дастань мне звязду з неба, ды тую, якая ярчэй за ўсіх свеціць.

Салдат крыху падумаў ды адказвае генералу:

— Паспрабую дастаць звязду з неба, ваша высокаблагароддзе.

Сказаў салдат, а сам задумаўся, як выканаць загад генерала. Пахадзіў салдат па двару, пагледзеў на неба, прыходзіць да генерала і дакладвае:

— Усё зроблена, ваша высокаблагароддзе.





Звязду я выбраў самую яркую і самую далёкую, дастаць магу хоць зараз. Толькі дайце такі ранец, каб у ім магла свабодна ўмясціцца звязда.

Генерал не ведаў, як дастаць такі ранец і таму адказаў салдату:

— Настаў лепш, салдат, самавар і пачастуй мяне чаем. А звязду можна і не даставаць».

Сёмы мужык расказаў:

«Адзін багаты пан сабраўся ў дарогу. Кучар падаў коней, пан забраўся на мяккае сядзенне і сабраўся было ўжо ад'язджаць. У гэты час да пана звяртаецца парабак:

— Яснавяльможны пане,—кажа батрак,—пакуль вы звернецеся з горада дамоў, я магу напісаць аб вашым падарожжы апавяданне. Яно будзе праўдзівым і вельмі кароткім. А за работу дадзіце надзел зямлі, каня і крыху насення.

Пан згадзіўся. Батраку далі тоўсты сшытак, ручку і чарніла. Ён сеў пісаць сваё апавяданне.

Увечары, калі пан вярнуўся з горада, ён запытаў батрака:

— Ну як, ці напісана апавяданне.

— Слухайце, вяльможны пане. Я чытаю: «Наш вяльможны пан паехаў у горад. Па дарозе ён загадаў кучару гнаць коней. Кучар гнаў коней, абганяў мужыкоў і крычаў:

— Но-о, но-о!

З горада пан вяртаўся па гэтай-жа дарозе. Ён зноў загадаў кучару гнаць коней. Кучар гнаў коней і зноў пакрыкваў:

— Но-о, но-о!

Пан ехаў, ехаў і прыехаў. Вось і ўсё апавяданне».

— Апавяданне сапраўды кароткае і правільнае, але паглядзім, ці спісаў ты ўвесь сшытак,—кажа батраку пан.

Паглядзелі і ўпэўніліся, што сшытак быў увесь спісан. Больш чым на 300 старонках было напісана «Но-о, но-о!»

Батрак дакладна выканаў дагавор. Але пан так і не даў батраку каня і надзела зямлі. Не даў таму, што пасля аднаго «но-о» не было коскі».



— Вы пачалі кепска гаварыць аб панах. Хопіць, мужыкі. Няхай цяпер мае батракі што-небудзь раскажуць.

Батрак Кандрат Белавеж пачаў свой расказ:

«На беразе Нёмана калісьці быў прыгожы палац, зроблены з чыстага золата. У тым залатым палацы жыў вялікі чорны павук. Павук быў такі вялікі, што, жывучы на адным беразе ракі, ён свабодна віў павуцінне на другім беразе ракі. Па-



вук быў пражэрлівы. У расстаўленае павуцінне пападаліся звяркі і птушкі—дзікія і хатнія. Павук быў ненасытны. Ён усё паядаў.

Ішоў час. Павук усё тлусцеў і патрабаваў усё больш харчоў. Неўзабаве па ўсёй той мясцовасці перавяліся лясныя зверы, былі знішчаны ўсе птушкі—лясныя і хатнія. Палі кішэлі шкоднымі казюлькамі і чарвямі. Не было птушак, каб знішчаць гэтых шкоднікаў. І шкоднікі паядалі збожжа, гародніну, лісцё на дрэвах. Дрэвы пачалі засыхаць. А людзі пачалі цярпець недахоп у хлебе, у кармах для жывёлы.

Чорны павук адгадаваў сабе вялікі жывот і зрабіўся яшчэ больш пражэрлівым. Ён віў павуцінне і рабіў драпежніцкія набегі на сялянскую жывёлу. Калі дробная жывёла была знішчана, павук пачаў забіваць быкоў, кароў, коней.

Многа бяды нацярпеліся мужыкі ад ненавіснага павука. Але мужыкоў ратавала вясенняя птушка-Шпак.

Аднойчы прыляцеў вялікі Шпак і панёс Чорнага павука. Думаючы, што ён садзіцца ў поле на камень, Шпак сеў у ляпу Ліса. Ліс гатоў ужо быў задушыць птушку і выручыць свайго прыяцеля павука, з якім у яго быў заключаны дагавор. Але ў гэты час тут праходзіць юнак-паляўнічы. Паляўнічы заўважыў, у якой небяспецы знаходзіцца любімая народам птушка Шпак. Меткім стрэлам паляўнічы забіў Ліса і вызваліў Шпака.

Шпак высока падняўся і паляцеў у горы. Там ён забіў Чорнага павука і кінуў яго ў дзікую цясніну.

Паляўнічы зняў скуру з забітага Ліса і прадаў яе. Атрымаўшы грошы, паляўнічы заплаціў казне ўсе падаткі за свайго бацьку-мужыка.

— Вось цяпер,—запытаўся Кандрат Белавеж,—трэба ўгадаць, хто гэта быў такі павук і як вялік быў падатак у таго мужыка?»

Пану і яго госцям вельмі спадабалася казка. Пан абяцаў таму, хто правільна разгадае казку, даць надзел зямлі, каня і насенне. Казку разгадаць узяўся каваль Іван Русак. Ён разгадаў яе так:

— Як вялік падатак у мужыка—аб гэтым лепш запытаць у самога мужыка. Ён адкажа правільна. А павук, аб якім тут расказвалася—гэта і будзе наш яснавяльможны пан.

Тут усе мужыкі засмяяліся і ў адзін голас адказалі:

— Верна разгадаў каваль.

Пан і яго госці хацелі пабіць каваля. Але мужыкі ўступіліся за каваля і пабілі пана.





# Янук у лесе

*Я. Журба.*

*Рыс. Б. СРЭЦЕНСКАГА*

На ўсходзе румяніцца неба.
Янук выганяе карову
На кліч пастуховай трубы.

Вось выган з чарняваю глебай,
За ім—агарожа-ахова
І поле, дзе часта ён быў.

Як гожа прыбралася поле!
Луг ззяе каўром залацістым.
Любуецца лугам Янук.

Дагнаўшы старога Міколу
З вялікай трубой серабрыстай,
У лес паімчаўся хлапчук...

А вось і калгасная пушча.
А колькі тут рознай прынады,
А колькі чырвоных суніц!..

Зайшоў ён у самую гушчу:
Ён кожнаму кусціку рады,
Бо лес яму садам шуміць,

І Янку заўсёды ён вабіць
Разложыстым дахам зялёным
І гоманам птушак лясных.

Тут стромкія ясені, грабы,
Бярозы, рабіны і клёны;
Тут водар смалістай сасны.

Дол выслан сунічкамі, лісцем,
Цвіце каляровасцю кветак,
Што зорань вясёлкай-расой.

Тут хлопчыку люба ўсё чыста,
Ўсё Янку страчае прыветна,
Ўсё цешыць дзівоснай красой...

З. ТЭЛЕСІН

# У лагеры Талька

У густым алешніку ўецца вузенькая сцежка. Яна цягнецца ўздоўж чыгуначнай лініі і прыводзіць да драўлянага маста. Мост ляжыць над ціхай рэчкай. Яшчэ здалёку вырысоўваецца сасновы лес. Ля яго зялёнай сцяны прытуліліся невялікія белыя домікі.

Сонца паднімаецца ўсё вышэй па блакітнаму небу. На лугу важна расхаджвае бусел. З-за густой травы не відаць яго доўгіх ног і, здаецца, як быццам ён плыве па шырокім зялёным возеры.

Сцежка зварачвае ўправа. Пераходжу мост. На ўзбярэжжы ракі ў высокія ярусы складзены абструганыя бярвенні. З-за гэтага яруса выходзяць дзве дзяўчынкі. Яны нешта шукаюць у траве. Убачыўшы прахожага, яны бягуць насустрач.

— Ці не сустрэлі вы на дарозе двух вужоў? Адзін такі вялікі, доўгі, шэры, другі—яшчэ маленькі, з залацістым жывоцікам. Кожны дзень мы ім лавілі жаб. І не ведаем, хто іх выпусціў са скрынкі.

— Не бачыў,—адказаў я.

Дзеці пайшлі далей, шукаючы ў густой траве сваіх вужоў.

За лугам відаць арка. На чырвоным палотнішчы надпіс: «Добро пожаловать!»



Рэбяты ў паходзе.

Праходжу арку. Раптам з-за куста выбягае хлопчык з вялікай чырвонаармейскай зоркай на папяровай пілотцы. З усіх бакоў раздаецца трэск, які нагадваў кулямётную перастрэлку.

Хлапчук падбягае да мяне і з суровым выглядам кажа:

— Я вас забіраю ў палон. Інакш вас зараз расстраляюць.

І чырвоны вартавы павёў мяне ў штаб. Мы праходзім міма гармат і кулямётаў. Невялікая група хлапчукоў круцяць трашчоткі. На ўзлессі заіграў горн і ўсё змоўкла.



На беразе ракі Свіслач.

— Ну, цяпер усё ў парадку, вы свабодны,—сказаў мне вартавы.—Прыходзьце вечарам на лужок. Будзем разбіраць ваенныя дзеянні. Мне здаецца, што наш атрад выйграў «вайну».

І хлапчук пабег да рэчкі, дзе ўсе «байцы» плавалі, ныралі, узнімалі пырскі на срабрыстай вадзе.

Трыста пяцьдзесят дзяцей мінскіх школ і дзіцячых дамоў праводзяць свае летнія канікулы ў лагеры Талька. Мясцовасць тут вельмі прыгожая. Ля самых дач працякае чыстая рэчка Талька. Іменем гэтай рэчкі і завецца лагер.

Дзеці тут купаюцца, загараюць, вывучаюць жыццё раслін, розных казявак,

жучкоў, вожыкаў і іншых лясных жыхароў. Гурток натуралістаў рыхтуе падарунак Мінскаму дому піянераў. Яны ўжо злавілі каршуна, двух вожыкаў і многа вужоў (два вужы ўцяклі, якіх дзяўчынкі пайшлі шукаць).

Вельмі любяць дзеці ваенную справу. Былы ўдзельнік грамадзянскай вайны тав. Хмелеўскі, настаўнік 18 школы, праводзіць з імі ваенныя гульні. Ён ім расказвае пра грамадзянскую вайну, аб баях з белапалякамі, расказвае розныя цікавыя навіны аб Бесарабіі, Літве, Латвіі і Эстоніі.

Дзеці дапамагаюць навакольным калгасам у палявых работах. У калгасе «11 ліпеня» дзеці прабылі два дні. Яны там выпусцілі насценную газету, правялі вечар самадзейнасці для калгаснікаў. Яны дапамаглі калгасу ўбраць сена.

Асабліва любяць дзеці працаваць на кухні і ў сталовай. Кожны дзень выдзяляецца дзяжурны па сталовай і кухні. Яны чысцяць бульбу, рэжуць цыбулю, падаюць і прыбіраюць са сталоў. У дачах утульна, чыста. Яны самі прыбіраюць, сцелюць пасцелі; ім сорамна, калі хтонебудзь за іх гэта робіць.

* * *

Вечарэе. Птушкі вяртаюцца ў свае гнёзды. Сонца пераходзіць рэчку і хаваецца за вершалінамі стромкіх сосен.



Па дарозе ў калгас „Арэшкавічы".

Апошнія яго промені падаюць на веранду, дзе ў цесны гурток сабраліся піянеры другога атрада. Дзяўчынка з чорнымі касічкамі, перабіраючы кончык піянерскага гальштука, штосьці расказвае. Усе сядзяць ціха. А яна расказвае вось што.

У былой панскай Польшчы ёсць горад Седлец. Яна там радзілася. Маленькаю яна асталася без бацькоў, без родных і блізкіх. Яе ўзяў да сябе адзін шапачнік, у якога і без яе было шмат босых дзяцей і адна старая швейная машына, якая была падобна на вялікую чорную бутэльку. На гэтай машыне ён цэлымі днямі шыў



Дзеці ў лесе.

чатырохвугольныя шапкі з глянцавітымі казыркамі. На зробленыя грошы жонка шапачніка прыносіла з рынка хлеб і цыбулю. Іншы раз у кашолцы прыносіла кавалачак мяса або масла, і тады для іх было вялікае свята. Дзеці жылі між сабой дружна, не сварыліся, адзін аднаго не крыўдзілі. Але аднойчы прышлі двое ваенных і чагосьці доўга шукалі—перавярнулі ўвесь дом. І кудысьці павялі шапачніка. Доўга дзеці яго чакалі, плакалі, але ён усё не вяртаўся. Адны гаварылі, што яго пасадзілі ў турму, другія казалі, што яго адправілі на фронт і там яго забілі. У іх больш ужо не было грошай. Жонка шапачніка прыходзіла з рынка з заплаканымі вачыма і пустой кашолкай. Але тут над імі злітавалася адна старая дама, якая заўсёды расхаджвала з сабачкай. Яна аддала дзяцей у дзіцячы дом. Тут яны павінны былі прыслужваць дарослым і працаваць на іх. Дзяцей прымушалі маліцца богу. Нікуды ім не дазвалялася выходзіць. Яны заўсёды сядзелі ўзаперці, як у турме. У спякотнае лета яны ніколі не выязджалі за горад.




*А. Тайц*

*Рыс. Б. Срэценскага*

Я даўно абяцаў дачцы цацку, і ў магазіне нагледзеў драўлянага бычка. Забаўны бычок, і цана сходная—два пяцьдзесят за ўсё пра ўсё, з дашчэчкай і хвосцікам.

Я прышоў дадому:

— Маша, збірайся!

— Куды?

— За цацкай.

Яна ўскочыла:

— Хутчэй, дзе мая вопратка? Хутчэй, дзе мае рукавічкі?

Давай адзявацца. Я ёй дапамагаю. Яна вырываецца:

— Сама, сама!

Добра сама—усё-такі я яе непрыкметна адзяваю. А то дзве гадзіны пройдзе, пакуль адзенецца. Кофтачку адзене задам наперад, шапачку навыварат, галошы пераблытае. А ўсё будзе крычаць: «Сама, сама!»

І вось—пайшлі! Не, не пайшлі—пабеглі.

На рагу яна спынілася:

— Толькі я хочу сама выбраць!

— Я-ж ужо выбраў!

— Не, я хочу зусім сама!

Я задумаўся. Там цацкі дарагія, а грошай я ўзяў мала. Усё-такі я згадзіўся. Так і быць, выбірай сама!

І вось—магазін. Цацак там:—дзень лічыць—не пералічыць. Усякія ільвы, лялькі, тыгры, малпы, барабаны, шарабаны. У Машы—вочы разбегліся. Яна гля-



дзіць на цацкі, а я на яе гляджу. Потым я сказаў:

— Давай, Маша, бычка возьмем. Глядзі, які! І нядорага!

— Не, я сама выберу!

Падбег прадавец.

Маша паказала пальцам:

— Дайце мне вось тую ляльку.

Лялька крыху менш за Машу. На грудзях пашпарт —«Каця» і паперка: 45 рублёў. Дрэнная справа! Я сказаў:

— Маша, паглядзі, яна вельмі цяжкая!

Маша абняла Кацю.

— Ух, якая цяжкая! Я цяжкіх не люблю!

Каця паехала назад на паліцу. Я рад. Маша просіць:

— Дайце таго слана... не, тыгра, тыгра!

Тыгр каштуе 20 рублёў. Я ўздыхнуў:

— Глядзі, Маша, ён кусаецца!

— Праўда, кусаецца. Я не люблю, калі кусаюцца. Дайце лепш цягнік. Не, цягнік не хачу. Мяч? Не, мяч у мяне ёсць. А гэта леў. Львы таксама кусаюцца. Гэта кубікі, гэта для маленькіх, я не хачу... Дайце!.. Зараз скажу... я выберу...

Яна пачырванела, успацела. Прышлося яе расшпіліць, зняць шалік, развязаць шапачку. Прадавец паказвае адну цацку за другой, адну лепш другой. А Машы ўсё здаецца,—можна выбраць яшчэ лепшую.

— Дайце... вяр-блюда. Не, я забыла, яны гарбатыя, а я не люблю, калі цацкі гарбатыя. Вось заяц... З барабанам... Не, гармонік.

Цярплівы прадавец заіграў на гармоніку.

— Не, у яго голас не такі... Я лепш трубу. Гэта добрая труба?

І Маша заіграла.

— Туру-ту! Туру-ту!

— Значыць, трубу?

— Зараз, а можа мішку касалапага... Не, я забыла, мішка ў мяне ёсць...

Яна паглядзела на мяне:

— Папа, што-ж ты маўчыш?

— Ты-ж хацела сама, ну і выбірай!

Раптам яна заплакала:

— Тут вельмі многа цацак... іх многа, а я адна...

Вельмі добра! Я падышоў да прылаўка, узяў бычка, паставіў на дашчэчку і пусціў. Бычок пайшоў, пастукваючы нагамі—чурбанкамі, замахаў галавой і хвосцікам. Маша засмяялася:

— Я сама, сама!

Яна пусціла бычка, і ён пакорна—туп-туп уніз.

— Папа, я вазьму бычка.

Стомлены прадавец выпісаў чэк, я заплаціў за цацку і яшчэ засталося на дзве цукеркі. Адну Машы, а другую мне. Мы смакталі цукеркі і спяшаліся дадому. Дома Маша бясконца пускала бычка і выхвалялася:

— Мама, глядзі, я сама выбрала.

Я прамаўчаў. А бычок гучна тупаў нагой па дашчэчцы і—такі падліза—ківаў галавой з усёй сілы:

— Са-ма, са-ма, са-ма...





# Мая праца на пасецы



Прыгожая майская раніца. Вакол ціха. З-за лесу пачало паказвацца сонца. У яго праменнях граюць пялёсткі нядаўна распусціўшыхся кветак. Сярод гэтай цішыні чуваць толькі гудзенне пчол. Пчолы перадётваюць з кветкі на кветку, збіраючы салодкі раслінны сок—нектар. Не гледзячы на такую раннюю пару, іх ужо тут была вялікая колькасць. Набраўшы нектару, пчолы спяшаюцца ў вуллі. Па дарозе яны сустракаюць іншых пчол, якія таксама ляцяць за нектарам. Здалёк вуллі падобны да невялікіх домікаў.



Рабочы дзень пчол у поўным разгары. Набліжаецца поўдзень. У 12 гадзін дня мы ідзем аглядаць пасеку. Бярэм з сабою сеткі, дымар, стамескі, скрыню з рамкамі — прылады, неабходныя для агляду пчол. Знімаем дах вулля. З шумам адтуль вылятаюць пчолы. Пры неасцярожным абыходжанні з імі яны пачынаюць жаліць няпрошаных гасцей. Тады пускаем струмень дыму, і пчолы супакойваюцца. Паціху вынімаем рамкі з сотамі і аглядаем іх. Пры аглядзе пчол мы звяртаем увагу на колькасць мёду, на расплод і паводзіны пчол. Калі мёду ў вуллі мала, ставім рамкі з мёдам на месца. Калі пчолы хвалююцца, высвятляем прычыны іх хвалявання. Аглядзеўшы першую сям'ю, мы ідзем аглядаць наступныя. І так, пакуль не агледзім усе вуллі. Вось агляд скончыўся. Вясёлыя мы адпраўляемся дамоў, а пчолы ўсё яшчэ працягваюць сваю працу. Работа іх заключаецца вось у чым: адны—рабочыя пчолы—нектар, які ўвесь час прыносяць, перапрацоўваюць у мёд і адкладаюць у ячэйкі; другія ачышчаюць вулей ад загінуўшых пчол і смецця; трэція падкармліваюць дзетак. Матка кладзе ўвесь час яечкі, з якіх потым вырастаюць маладыя пчолкі. І так да вечара. Увечары паступова ўсе пчолы збіраюцца ў свае вуллі і больш не вылятаюць. Працоўны дзень пчол скончыўся.



## II

Летам 1938 г. я з рэбятамі нашага гуртка прыгатаваў чорнасмародзінны мёд. Для гэтага мы бралі чорную смародзіну і выціскалі сок. Сок змяшалі з цукрам, а потым налілі яго ў кармушкі пчол, якія стаяць у вуллях. Гэты сок пчолы, як і нектар, перапрацоўвалі ў мёд. Толькі атрымаўся не жоўты мёд, як з нектара, а цёмна-чырвоны. Такі мёд з'яўляецца каштоўным таму, што ў ім захоўваецца карысная якасць смародзіны, а іменна—вітамін С, неабходны сродак для барацьбы з цынгой. За гэты мёд мяне і маіх таварышоў па гуртку зацвердзілі ўдзельнікамі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1939 г. Улетку 1939 г. мы атрымалі таксама і вішнёвы мёд, які захоўвае карысныя якасці вішні.



Улетку гэтага-ж года мяне і Юру Блазнюка з нашага гуртка прэміравалі паездкай у Маскву на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Рознакаляровыя мёды, атрыманыя ў мінулым годзе, мы думаем паслаць на выстаўку 1940 г.

*Міша Раговіч.*

Юннат Цэнтральнай дзіцячай тэхнічнай станцыі г. Мінска.

# Як людзі навучыліся друкаваць кнігі

*Я. АДАМ.*

*Рыс. А. АСТАПОВІЧА*









Калі вам патрэбна якая-небудзь кніжка, вы бярэце яе ў бібліятэцы ці ў таварыша і ўносіце дамоў. Гэта-ж так проста і лёгка! Але ці ведаеце вы, рэбяты, што не заўсёды кніга была такой зручнай для карыстання, такой распаўсюджанай і дзяшовай, як цяпер. Толькі 500 год назад кніга стала падобна на сучасную.

Першая кніга чалавека была драўлянай ці каменнай. Першае яго пяро—моцны нож ці тапор. Чатыры тысячы год назад егіпцяне вырэзвалі цэлыя легенды і гістарычныя апавяданні на сценах сваіх пірамід і храмаў. Кожная такая „кніга" важыла сотні пудоў! Яе не возьмеш дамоў пачытаць, а каменнае пісьмо па пошце не пашлеш.

На чым толькі людзі не пісалі!

У Германіі ёсць старынны горад Майнц, дзе потым нарадзіўся вынаходца кнігадрукавання Іоган Гутэнберг. І вось у 1135 годзе жыхары Майнца заключылі дагавор з епіскапам—уладаром горада. Гэты дагавор быў „запісаны", гэта значыць высечаны на цяжкіх бронзавых дзвярах Майнскага сабора.

Пісалі і на гліняных дошчачках завостранай палачкай. Нядаўна ў Азіі рабілі раскопкі на тым месцы, дзе некалі, вельмі даўно, стаяла сталіца старажытнай дзяржавы Асірыі. Пры раскопках знайшлі цэлую бібліятэку асірыйскага цара. Усе кнігі гэтай бібліятэкі зроблены з гліны. Тысячы год праляжалі яны ў зямлі, а цяпер вучоным удалося іх прачытаць. Бачыце, рэбяты, якая доўгавечная гліняная кніга! Але і яна не вельмі зручная. Калі-б напісаць на такіх плітках змест гэтага нумара „Іскры Ільіча", то дзесятак чалавек не змаглі-б нават падняць іх, а на аўтамашыне можна было-б прывезці толькі два-тры такіх журнала.

Егіпцяне пісалі на папірусе. Гэта — высокая травяністая расліна, якая расла ў балотах Егіпта. З лістоў і сцяблоў яе рабілі паперу, якая была, безумоўна, значна горш нашай. Пісалі на ёй чарніламі і толькі з аднаго боку. Самыя вялікія „папяровыя" фабрыкі былі ў егіпецкім горадзе Александрыі. Французскі вучоны Шампільён знайшоў папірус, якому пяць тысяч год. Кнігі з папіруса мелі выгляд скрутка. Доўгія палосы папіруса наварачваліся на палку, як цяпер робяць з геаграфічнымі картамі. Пры чытанні былі заняты абедзве рукі — папірус трэба было перакручваць з адной палкі на другую. Кнігарні таго часу былі падобны да сучасных шпалерных магазінаў.

Амаль усе краіны ўвозілі папірус з Егіпта. У Александрыі была выдатная, першая ў свеце бібліятэка, у якой было сабрана каля мільёна папірусных скруткаў. Але ў горадзе Пергаме (Малая Азія) узнікла другая бібліятэка, якая пачала наганяць Александрыйскую. Каб расправіцца з ёю, фараон сурова забараніў прадаваць папірус у Азію.



Тады пергамскія майстры навучыліся вырабляць з баранавай ці казлінай скуры новы матэрыял для пісьма, які атрымаў назву пергамента. Ён быў даражэй папіруса, але больш трывалы і зручны для карыстання. Таму ён праз некаторы час і выціснуў папірус. Кнігі пачалі рабіць з пергамента. Скураныя кнігі ўжо не мелі выгляду скрутка, а складаліся з асобных аркушаў, як і сучасныя кнігі.

650 год назад у Еўропу ўпершыню пранікла папера, якую кітайцы вынайшлі больш 2000 год назад. Рабілі паперу з ільняных ануч і палатна. Нарэшце, з'явіўся зручны, недарагі, трывалы і лёгкі матэрыял для кнігі, для пісьма!

Але кніга, як і раней, заставалася вельмі рэдкай і дарагой рэччу. Перапіскай кніг у тыя часы займаліся пераважна манахі ў манастырах. Цэлы дзень чалавек сядзіць і рысуе літару за літарай. Заглаўныя літары разрысуе так прыгожа, што і не нагледзецца. Па многа год пісалі адну кнігу! Таму і было іх вельмі мала, а купляць іх маглі толькі вельмі багатыя людзі. Да і пісаліся яны для іх.

Потым здагадаліся на драўляных дошках вырэзваць словы і рысункі, пакрываць гэта фарбаю і прыкладваць паперу. На паперы атрымліваліся словы. Але гэта вельмі марудна, дорага і нязручна. Так было да вялікага вынаходства Гутэнберга.

Іаган Гутэнберг нарадзіўся ў г. Майнцы ў 1396 г. Калі яму мінула 20 год, ён быў вымушан пакінуць Майнц і пераехаць у другі германскі горад — Страсбург. Тут ён і пачаў думаць, як лепш друкаваць кнігі. Першыя вопыты Гутэнберга адносяць да 1440 года, таму і лічаць, што ў 1440 годзе было вынайдзена кнігадрукаванне.

Гэта было 500 год назад. Гутэнберг жыў у Страсбурге, у загарадным манастыру. Тут быў яго рабочы пакой. Вакол — цішыня. Ніхто не перашкаджаў Гутэнбергу займацца ажыццяўленнем сваёй заветнай мары.



Гутэнберг — адзін у сваім пакоі. У яго ужо нарэзаны з дрэва маленькія драўляныя пліткі ці слупкі. Іх столькі, колькі было літар у азбуцы. Усе пліткі аднолькавай велічыні. На кожнай плітцы ён выразаў у адваротным парадку выпуклую літару, пачынаючы з літары „а", потым ён усе слупкі паставіў побач, адзін да аднаго— так, каб літары прыходзіліся зверху і ішлі-б у адну лінію. Збоку ў кожным слупку пракруціў ён па дзірачцы. У дзірачку прасунуў ён нітку і ёю шчыльна прыціснуў адну плітку да другой: нітка не давала ім распасціся.

Тады Гутэнберг, ледзь стрымліваючы сваё хваляванне, пакрывае ўсе літары фарбай, накладвае на іх ліст паперы і асцярожна прыціскае яго зверху; потым здымае паперу і бачыць, к вялікай сваёй радасці, што на паперы адбілася ўся азбука... Які цудоўны момант! Яшчэ адно новае вынаходства на карысць чалавецтва! Цяпер Гутэнберг дасягнуў таго, аб чым ён так доўга марыў: тайна друкавання кніг у яго руках! Прэч з дарогі драўляныя дошкі, рэзчыкі, перапісчыкі і інш.! Цяпер трэба толькі нарэзаць літары — і друкуй імі якую хочаш кнігу і ў якой хочаш колькасці!

У наш час вынаходства Гутэнберга здаецца вельмі простым і зразумелым. Ён прыдумаў выразаць асобныя літары і іншыя друкарскія знакі, потым з гэтых літар набіраць любыя словы, намазваць іх адпаведнай фарбай і прыкладваць лісты паперы. На паперы атрымліваліся ўсе словы, якія былі складзены з выразаных літар.

Гутэнберг не супакоіўся на дасягнутым. Не гледзячы на адсутнасць у яго сродкаў, на вялікія перашкоды, ён працягваў удасканальваць сваё вынаходства. Драўляныя літары ён замяніў металічнымі, з лёгкаплаўкага метала. Ён-жа вынайшоў друкарскі станок, які значна палегчыў друкаванне. Першая кніга па спосабу



Гутэнберга была надрукавана ў 1450 годзе. Гэта была лацінская граматыка.

Вынаходства Гутэнберга ў многа разоў павялічыла выпуск кніг, таму што кожная кніга выходзіла адразу ў вялікай колькасці экземпляраў. Праўда, тэхніка гэтай справы была вельмі недасканалай, друкаванне ішло павольна, і тыраж кнігі не перавышаў некалькіх соцень штук.

Гутэнбергу прышлося перанесці многа пакут у сваім жыцці з-за таго, што ён не быў багатым чалавекам. Часта ў яго нехапала сродкаў для ажыццяўлення сваіх вынаходстваў, але ён упарта дабіваўся свайго. Памёр ён у 1468 годзе. Чалавецтва будзе вечна ўдзячна яму за вялікае вынаходства.

У Расіі першая кніга была надрукавана ў 1564 годзе. Слава першага рускага кнігадрукарніка належыць Івану Фёдараву. Помнік яму стаіць цяпер у Маскве.

А ў некалькіх кілометрах ад гэтага помніка знаходзіцца вялізны газетны камбінат „Праўды". Там працуе гіганцкая машына, якая завецца ратацыяй. Гэтая машына за некалькі гадзін друкуе ўвесь тыраж „Праўды"—мільёны газетных аркушоў. Такіх поспехаў дабіліся людзі ў справе друкавання за 500 год!

## ЗАГАДАЧНЫ РЫСУНАК



Куды схаваліся тры звяры: воўк, ліса і заяц?
Адшукайце іх.

Прыслаў Дашук Іван
(Хойніцкі р-н)



„К О Н Н І К".

Рысунак Гені Кульбацкага 7 год, гор. Мінск.

## Жарт

— Мамачка! У вядро з малаком упала мыш.

— А ты-ж выкінула яе, дачушка?

— Не, мамачка, я кінула ў вядро ката, каб ён злавіў яе.





Як нашыя чырвонаармейцы білі польскіх паноў
Рысаваў Нёма Гарадзецкі 11 год (Рагачоўскі р-н).

# ШКЛЯНКА З ПАПЕРЫ

Часта прыходзіцца карыстацца папяровымі шклянкамі. Калі няма гатовых у продажы, то можна з шчыльнага чыстага ліста паперы тут-жа на месцы зрабіць шклянку, з якой можна піць ваду, есці марожанае і г. д.

Квадратны лісцік паперы складзіце па дыяганалі (рыс. 2). Затым ніжні вугал «г» адагніце да месца «е» (рыс. 3). Затым верхні вугал «в» адагніце да вугла «д» (рыс. 4).

Потым адзін лісцік з вугла «а» адагніце і ўстаўце ў канверт, утвораны на згібе «е». «д», разагніце ўтварыўшуюся шклянку ў авальную форму і смела можаце наліць ваду або пакласці марожанае.




# НУ-КА!

Разрэжце гэтую фігуру на дзве роўныя часткі так, каб абедзве яны былі зусім аднолькавай формы.




Рэдактар А. БЯРОЗКІН Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна. Мінск 20.000 экз Зак. № 2665. $2^1/_2$ друк арк. У3928

# Вавёрка

Я. ЖУРБА

Я рухавы звярок:
Шмат арэхаў знайду,
Самых лепшых нарву
І ў дупло накладу.

На галінках сасны
Я грыбоў насушу
І ў запас іх багата
Ў свой дом нанашу.

Набяру я на дубе
Буйных жалудоў
І к сцюдзёнай зіме
Прынясу іх дамоў.

Не баюся зімой
Я марозаў ліхіх:
Спачываю ў дупле
На лісточках сухіх.

А як сонца зірне,
Я скачу па сасне.
Цёпла ў шубе маёй
І суровай зімой.